# НЕКАЛЬКІ ЗВЫЧАИНЫХ З'ЯЎ

## (дыскусійны артыкул)

(Працяг са стар. 3).

Многае залежыць і ад мясцовай інтэлігенцыі. Часта можна сустрэць у вёсках настаўнікаў і лекараў, якія наракаюць, што ім сумна, што яны ізаляваны ад моладзі. І не саромяцца ж нават у гэтым самі прызнавацца. Шчыра, ад душы скажу, што не варта арганізоўваць некалькі асабовых гурткоў вясковай інтэлігенцыі. З такой думкай я сустракаўся ўжо неаднойчы. «Дзейнасць» гэтых гурткоў, па-мойму, зводзілася б на ігры ў карты і піцця... віна. Лепш зрабіць так, як настаўнікі ў Ласінцы. Яны дапамагаюць у працы гуртка і актыўна ў ім удзельнічаюць. Ім ніколі не сумна, і ўсе іх паважаюць.

А возьмем Шымкі. Ці ж патрэбныя там забавы, на якіх б'юцца праваслаўныя і каталікі. Хіба не памылюся, калі скажу, што сведчыць гэта аб адсталасці і недахопе культуры. Не падумайце, што пішу аб гэтым, каб толькі пісаць. Гэта ж важная справа. У Шымках і наваколлі няма ніякага мастацкага гуртка, няма там школы сельгаспадрыхтоўкі. Чытальніцтва кніжак і газет сярод моладзі — гэта цаліна. Больш чытаюць старэйшыя. Можа не сумна будзе, прабачце за шчырасць, мясцовай інтэлігенцыі, калі падумае аб гэтым.

У шматлікіх вёсках існуе звычай, што дзяўчаты не ходзяць на забавы ў суседнія вёскі. Яны баяцца дрэнных паводзін кавалераў. Ці ж не сорам такім хлопцам, калі іх баяцца прыгажуні? Ці ж не больш прыемна пагуляць, калі на забаве збярэцца моладзь з некалькіх вёсак. І такі кавалер едзе потым у сваты да невядомай дзяўчыны, шукаючы вялікае прыданае, бо вядома, аб каханні няма тут ніякай размовы. Потым узнікаюць сярод маладажонаў розныя трагедыі.

Хочацца сказаць нешта і аб вясельных урачыстасцях. Ужо увайшло ў нас у традыцыю, што запрашаюць на іх усіх родных і блізкіх. Не хачу падлічаць, колькі каштуе такая ўрачыстасць, гэта чытачам вядома. Але ці ж сапраўды трэба, каб вясельныя госці выпівалі аж 100 літраў гарэлкі (нават значна больш, калі складзем разам, колькі вып'юць у маладой і ў маладога) і ў часе ўрачыстасці не памятаюць, у каго яны на вяселлі, бо і гэтак бывае. А бацькі не маюць потым грошай на падатак. Я не супроць вясельных урачыстасцей ды і сам не скупы чалавек. Аднак жа, ці не лепш было б, каб маладыя (маладажоны) сэканомілі і купілі сабе мэблю ці што іншае. Задавальненне было б значна большае. Чаму, як гавораць людзі, калісьці на вяселлі выпівалі дзясятую частку таго, што сёння. Жыццё стала лепшым, мы сталі багацейшымі, аднак жа не азначае гэта, на маю думку, што, падтрымліваючы традыцыі, будзем ісці ў дрэнным напрамку.

Трэба, каб нашае матэрыяльнае жыццё мела сваё добрае адбіццё ў маралі і паводзінах.

Прыйшлося закрануць толькі некаторыя з'явы. Думаю, што чытачы таксама будуць мець свае заўвагі адносна закранутых праблем і падзеляцца з намі сваімі думкамі.

М. КУРАШ



На выстаўцы народнага мастацтва беларускага насельніцтва Беласточчыны. Народныя ўборы. Фота — Зарэмба

# ЧАМУ ў КРАМАХ

## Міхалоўскага ГС няма хлеба

Жыхары горада захапляюцца вясковым хлебам. Пераважная большасць сялян любіць, наадварот, хлеб, выпечаны ў горадзе.

Спячы хлеб у вёсцы — гэта не зусім лёгкая справа. Работа гэтая забірае шмат часу. Таму ў час гарачых палявых работ сяляне вельмі ахвотна куплялі б гатовы хлеб, калі б ён быў у мясцовых крамах. Нажаль, мала калі ён бывае.

Мне неаднойчы давялося слухаць нараканні сялян на недахоп хлеба ў крамах, якія належаць Міхалоўскаму ГС.

— «Што ж мы зробім, — разводзілі крамнікі рукамі ў адказ сялянам. — Міхалоўская хлебапякарня не можа поўнасцю забяспечыць запатрабаванне». Мяне гэта зацікавіла. У Міхалове ж нядаўна пабудавалі новую механічную пякарню. Ці ж сапраўды яна не можа поўнасцю забяспечыць запатрабаванне на хлеб?

З гэтым пытаннем я звярнуўся да старшыні ГС Янкі Назарка.

— Няпраўда, — адказаў ён коратка. — Прадукцыйная магутнасць нашай пякарні — 5 тон у суткі. А выпякае яна толькі палову гэтага. Нажаль, маем цяжкасці ў збыце нават гэтай невялікай колькасці пякарскіх вырабаў.

Справа ў тым, што крамнікі не робяць запатрабавання на хлеб і іншыя пякарскія вырабы. Мабыць ім асабіста не аплачваецца гэта.

Ой, крамнікі, крамнікі. Не шкадуйце сялянам смачнага Міхалоўскага хлеба.

(Вб)

# РАДАСЦЬ І СУМ КРУШЫНЯНСКІХ ПАЖАРНІКАЎ

Добраахвотная пажарная каманда ў Крушынянах мае, так сказаць, вялікую традыцыю. Арганізаваная ў 1927 г., яна існуе і па сённяшні дзень. Некаторыя пажарнікі, як Мікола Краскевіч, Аляксандр і Кастусь Патэльскія і др., працуюць у камандзе ад пачатку яе арганізацыі. За ўвесь перыяд свайго існавання Крушынянская пажарная каманда перажывала гады свайго ўзлёту і цяжкія гады ўпадку.

У 1953 годзе Крушынянскія пажарнікі атрымалі новую матапомпу і патрэбныя да яе прылады. Не маючы рамізы, матапомпу памясцілі пакуль што ў сенях аднаго з пажарнікаў, грам. Івана Макаля. Летам 1958 года з невядомых прычын загарэўся бензін, і толькі дзякуючы ахвярнасці Івана Макаля і яшчэ аднаго жыхара з Крынак, матапомпу, хоць і абсмаленую, выратавалі.

У 1953 г. пабудаваны для пажарнай каманды склад і раміза. Аднак пакрыць будынак з уласных сродкаў пажарная ахова не магла. Пагэтаму сцены будынка стаялі да 1956 г., пакуль Павятовая камендатура СП, злітаваўшыся, не прыслала дошкі, дзверы і 10 ролікаў дахавага толю (папы). Будынак быў пакрыты, а інвентар перанесены ў рамізу. Але пакрыты адным слоем толю, дах рамізы не мог супраціўляцца бурам і па сённяшні дзень будынак стаіць амаль без страхі.

Летам г. г., дзякуючы намаганням каманды, ўдалося выпрасіць у Павятовым праўленні СП у Саколцы 11 мяшкоў цэменту на дахоўку, абяцалі таксама рэйкі (латы) і грошы на выраб дахоўкі, але гэта была толькі абяцанка. Дахоўка ляжыць ужо гатовай у майстра, але сродкаў на яе выкуп няма. У рамізу льецца вада і знішчае бясцэнны супрацьпажарны інвентар. Надыходзіць зіма са снегам і завеямі. Браць матапомпу пад саламяную страху ніхто больш не мае ахвоты.

Крушыняны — вялікая вёска, каля 140 гаспадароў, і не малая заслуга Крушынянскіх пажарнікаў у тым, што на працягу апошніх 20 гадоў быў толькі адзін невялікі пажар у вёсцы.

Крушынянскія пажарнікі дамагаюцца апекі з боку Павятовага праўлення Стражы Пажарных.

Аляксей Карпюк

# У МАЛАДЫЯ ГАДЫ

Іля возера я прачытаў тады Крысі палітычную лекцыю.

Я сам тады больш верыў, чым разумеў, і што мог расказаць, мне цяжка цяпер і ўявіць. Адно памятаю, што Крыся ўслухалася ўважліва і нават захаплялася. А пад канец згадзілася са мной, што рэлігія — мінулае, а ідэі сацыялізма — будучыня народаў. Я стаў пэўны, што Крыся перайшла ў маю «веру». Гэта мяне нават падняло ў сваіх вачах.

Вясёлыя, бадзёрыя, здаволеныя і шчаслівыя, мы вярталіся з возера.

Калі праходзілі па Антаколю насупраць касцёла Пятра і Паўла, Крыся спынілася і перахрысцілася, забыўшыся зусім, што мне абяцала ля возера.

Логіка не дзейнічае на тых людзей, якія глыбока вераць. Для таго, каб гэтую веру парушыць, мала адных лекцый і разважанняў. Самыя лепшыя довады бяссільныя, калі ў чалавека добра ўкараніліся схільнасці і звычкі і пераўтварыліся ў характар. Іх можна парушыць тады, калі ўстрасянуць моцна пачуццямі чалавека. Усё гэта я зразумеў гадоў дзесяць пасля. А ў тую хвіліну, узіраючыся, як Крыся набожна і з наіўным адданем крысціцца, я злосна вылаяўся ў душы:



— Вось табе і сагітаваў на сваю «веру»...

9.

Мною пачалі валодаць незразумелыя хістанні.

Яшчэ некалькі дзён назад я быў упэўнены, што Крысю кахаю. Цяпер упэўненасці не меў. Бо калі сядзеў побач з ёю, ва мне не варушыўся ні адзін нерв! У гарачыню мяне часамі брала такая лянота, што, здаецца, каб нехта побач пазяхаў, у мяне не хапіла б сілы волі не зрабіць тое самае. Хіба ж так сябе адчуваюць у прысутнасці каханай? У мяне на сэрцы было б тое самае, каб побач сядзела і кожная іншая дзяўчына.

Раўнадушнасць і нейкая ўпершыню адведаная ўпэўненасць і задавальненне самім сабою, быццам пасля ўдала выкананага задання, пасля якога я стаў на цэлую галаву вышэй над светам, валодалі ў гэтую хвіліну мной. На Крысю пазіраў я ўжо звысоку, паблажліва. Відаць, гэта ў мяне ішло ад эгаізма.

І адбывалася нешта такое, што я пераставаў разумець. Чым больш зазнаваўся, не звяртаў на яе ўвагі, тым больш яна за мной бегала, відаць, так яе ашаламіў. Яна заўважыла ва мне перамену і старалася ва ўсім дагадзіць.

Аднаго дня мы сядзелі на сваёй гары, схаваўшыся за кусты. Нізам па сцежцы хадзілі людзі.

Крыся, як усе жывыя і буйныя натуры, не патрабавала для вучобы спецыяльнай цішыні. Адначасова вучылася, гаварыла са мной і сачыла за ўсім, што адбывалася навокал. Я нарэзаў лазовых дубцоў і, плетучы кошык быў заняты сваімі думкамі. Крыся закрыла падручнік лацінскай мовы, паказала на паненку на сцежцы, спыталася:

— Падабаецца?



Я прыглядзеўся. Паненка, як паненка. Толькі з чорнай радзімкай на шчацэ.

— Што ў ёй цікавага, хіба гэта? — паказаў я сабе на шчаку, нездаволены тым, што адарвала мяне ад работы і думак.

— Сядзіць чалавек са мной, а душа лунае са студэнткай! — упікнула яна, уражаная маёй незалежнасцю.

Я зазлаваў.

— Не буду, Янэчку! — пачала яна пакрываць мяне пяшчотамі. — Толькі не дуйся так. Ты адзін чалавек на свеце, з якім мне так добра...

Стала яе шкада. Я размяк і забыў сваю тугу. Назаўтра, калі з'явілася Крыся, на яе шчацэ віднеўся маленькі кавалачак жоўтага аптэкарскага пластыра.

— Вязальнай шпіцай укалолася, — паясніла. Латка адхінулася і я заўважыў чорную кропку, выпечаную ляпісам. Убачыўшы, што ўзіраюся, Крыся пачырванела і закрыла латку пальцам. Мяне гэта кранула. Зрабілася шкада яе. Я падсеў. Агарнула такое жаданне схапіць яе на рукі і пацалаваць, што яна закрыла падручнік і насцеражылася. Пад дзеяннем яе чыстых спалоханых вачэй я струсіў, узяў касу і, як часамі на вёсцы хлопцы, што з-за самалюбства сваю чуллівасць замяняюць грубасцю, прказаў:

— Эх, хвост... Бабскія фокусы...

Крыся непрыемна паморшчылася, касу адабрала і закінула за плечы.

Наогул, я часта бачыў у яе вачах, як вытанчаныя пачуцці паненкі абражаліся ад маіх нехлямяжных грубых і часамі дурных выхадак. Ды яе прыцягвала да мяне нейкая другая сіла, якой Крыся не магла даць рады. Сіла была такая ма-

